# Газета для вас

ІВАЦЭВІЧЫ–БАРАНАВІЧЫ–БЯРОЗА–ПРУЖАНЫ

№ 4(215) 29 студзеня – 4 лютага 2000 г. | ГРАМАДСКАЕ НЕЗАЛЕЖНАЕ ВЫДАННЕ, ВЫХОДЗІЦЬ СА СТУДЗЕНЯ 1997 г. | Цана — 50 руб.

Ох, калгасныя кароўкі
Аж ад ветру гнуцца.
Дачакаемся ці лета?
Можа адпасуцца?





● ФОТАРЭПАРТАЖ

## РАССТАВАННЯ КОЦІЦЦА СЛЯЗА





На мінулым тыдні на вакзале Івацэвічаў многія былі сведкамі праводзін маладых хлопцаў на службу. Задуменныя і вясёлыя, яны збіліся ў купкі, чакаючы цягніка. Адны размаўлялі з бацькамі і роднымі, іншыя з сябрамі...

Сёлетні прызыў, як мне сказалі ў Івацэвіцкім ваенкамаце, нічым асаблівым не адрозніваецца ад папярэдніх. Ваенную форму апрануць яшчэ 99 юнакоў раёна. Служыць яны будуць ва Узброеных Сілах Беларусі на тэрыторыі рэспублікі.

Бацькі заўжды перажываюць за дзяцей. Тым болей, калі сыны ідуць на паўтара гады вучыцца ваеннай справе. Пажадаем ім моцнага здароўя, фізічнай і маральнай загартоўкі, хуткага вяртання дамоў. Галоўнае, каб над галавой было мірнае неба, а нашы з вамі сыны выкарыстоўвалі зброю толькі ў вучэбных мэтах. І каб ніколі-ніколі нашых хлопцаў не выкарысталі пэўныя палітыкі ў такіх вогненных кропках як Чачня, Афганістан...

*Аляксей ГАНЧУК.*
*Фота аўтара.*
*г. Івацэвічы.*

● ТАКОВА ЖИЗНЬ

## КТО ПОДРЫВАЕТ АВТОРИТЕТ ВЛАСТИ?

***Власть, как свидетельствуют мудрые книги, — это право, сила и воля над чем-то; свобода действий и распоряжений; начальствование, управление. Есть власть в широком смысле этого слова, то есть государственная, и в узком — судебная, исполнительная, военная, родительская и т. д.***

Как же у нас на местном уровне выглядит государственная власть? Какую силу она имеет и как влияет на все районные структуры ради одной цели — развития всех отраслей хозяйства и повышения благосостояния народа?

Наш народный президент все время твердит, что у нас сильная вертикальная власть. Она в состоянии навести порядок в любом городе и районе, может справиться с самой острой, неожиданно возникшей проблемой. Так должно быть. А как же на самом деле?

**(Окончание на 3-й стр.).**

### Сябруюць дзеці

**БЕЛААЗЁРСК.** Дзеці энергетыкаў горада падтрымліваюць даўнія сяброўскія сувязі з сваімі равеснікамі — дзецьмі энергетыкаў Францыі. Танцавальны калектыў Бярозаўскай ДРЭС паспяхова гастраляваў у гэтай краіне. Візіт на электрастанцыю ў адказ нанеслі прадстаўнікі прафсаюзаў Францыі. А мінулым летам дзеці работнікаў ДРЭС адпачывалі ў гэтай высокаразвітай і багатай краіне.

*Васіль СТРОК.*

### А да вясны — далёка

Як было адзначана на рэспубліканскай нарадзе па зімоўцы жывёлы, што прайшла днямі на базе саўгаса "Пескаўскі" Бярозаўскага раёна, у Брэсцкай вобласці назіраецца зніжэнне прыбаў на вырошчванні і адкорме жывёлы. Адна з прычын спаду — недахоп кармоў. Іх летась у вобласці было нарыхтавана ў сярэднім 13,4 цэнтнера кармавых адзінак, што на 14 працэнтаў менш, чым у 1998 годзе. Асаблівую трывогу выклікае стан спраў у Пружанскім, Лунінецкім і Драгічынскім раёнах, а таксама на свінаводчых комплексах.

*Валянціна КАЗЛОВІЧ.*

● АКЦЫЯ

## ПРАДПРЫМАЛЬНІКІ — НА МІТЫНГ!

Мінскі гарвыканкам санкцыяніраваў правядзенне 31 студзеня мітынгу ў абарону эканамічных інтарэсаў і правоў грамадзян. Акцыя праводзіцца паводле ініцыятывы прыватных прадпрымальнікаў, Свабоднага прафсаюза Беларускага і Беларускай арганізацыі працуючых жанчын.

Як паведаміў БелаПАН старшыня Свабоднага прафсаюза прадпрымальнікаў Валерый Леванеўскі, мітынг распачнецца а 13 гадзіне на сталічнай плошчы Бангалор. Ён будзе "чыста мірным": запланаваны выступленні музыкантаў, раздача сувеніраў, цукерак і марожанага для дзяцей, білетаў у кінатэатры на дзіцячыя сеансы і г. д. Падставай для арганізацыі мітынгу паслужыла ўвядзенне з 1 студзеня 2000 года новых правілаў падаткаабкладання, якія фактычна паставілі на мяжу банкруцтва прыватных прадпрымальнікаў Беларусі. Мітынг пройдзе напярэдадні агульнарэспубліканскага страйку прадпрымальнікаў, які пачнецца 1 лютага.

Запрашэнні ўзяць удзел у мітынгу накіраваныя кіраўніку дзяржавы, прэм'ер-міністру і кіраўнікам абедзвюх палат Нацыянальнага сходу. У запрашальнай тэлеграме кіраўніку беларускай дзяржавы А. Лукашэнку прапануецца падрыхтаваць да мітынгу даклад аб выкананні сваіх перадвыбарных абяцанняў. Астатнім чыноўнікам — выступіць з кароткай справаздачай аб працы сваіх міністэрстваў і ведамстваў за апошнія 5 гадоў і распавесці аб бліжэйшых сацыяльна-эканамічных перспектывах краіны. У тэлеграме таксама ўтрымліваецца "пераканаўчая просьба да сілавых міністраў і кіраўнікоў спецыяльных фарміраванняў — зняць вонкавае назіранне з актыву, які рыхтуе дадзены мітынг, не ствараць правакацый, не падвяргаць арыштам і затрыманням удзельнікаў мітынгу па загадзя сфабрыкаваных справах".

*(БелаПАН).*

### Страты ад пажараў

**ПРУЖАНЫ.** Ідзе зіма, а колькасць пажараў у раёне не змяншаецца. Вінаваты ва ўсім самі жыхары, якія груба парушаюць правілы пажарнай бяспекі. Як вынік, гінуць людзі, наносяцца вялікія матэрыяльныя страты. За паўмесяца ўжо сёлета загінула чатыры чалавекі.

Так, у першы дзень новага года ў в. Калядзічы ў жылым доме адбыўся пажар. Загінуў 27-гадовы мужчына С. В. Моніч, які быў п'яны і курыў. З-за гэтага і ўзнікла загаранне.

Яшчэ адна трагедыя здарылася ў вёсцы Роўбіцк. Гаспадар дома В. У. Шарамет так накачагарыў печку, што ад яе ўзнік пажар. У агні загінуў сам гаспадар, 1965 года нараджэння, і двое дзяцей-школьнікаў.

З-за неасцярожнасці абыходжання з агнём таксама часта бываюць загаранні. У самім райцэнтры па вуліцы імя Кірава, 7 у грамадзянкі М. І. Трус згарэў хлеў.

А ў вёсцы Кацёлкі ў недабудаваным доме ў час зварачных работ узнік пажар. Агонь патушыць не ўдалося. Ён знішчыў дом, які належаў калгасу "Ленінскі шлях".

*Мікалай КАЗЛОЎСКІ,*
*старшы супрацоўнік ФЦА ПБ Пружанскага раёна.*

### "Свечка Незалежнасці"

**БАРАНАВІЧЫ.** У панядзелак, 24 студзеня, група патрыятычных грамадзян колькасцю да 30 чалавек правяла ў райцэнтры акцыю "Свечка Незалежнасці". Сяброў БНФ "Адраджэнне", БСДП (ПГ), рэспубліканскага Праваабарончага цэнтра "Вясна" і проста неабыякавых людзей абурыла распаўсюджаная афіцыйнымі СМІ інфармацыя аб тым, што Лукашэнка з Пуціным збіраюцца падчас сустрэчы 25 студзеня пачаць кансультацыі па стварэнні саюзных органаў. Пачалася акцыя ў 17.20 і нягледзячы на 15-ціградусны мароз цягнулася 55 хвілінаў. Стаўленне пераважнай большасці людзей, што вярталіся якраз з працы, было станоўчым.

Супрацоўнікі праваахоўных органаў паводзілі сябе даволі стрымана, затрыманняў падчас акцыі не было. Толькі прыкладна ў 18.20, калі ўдзельнікі разышліся, падскочыла машына з амапаўцамі, і яны схапілі М. Севярцава, які не быў удзельнікам, а прысутнічаў як наглядальнік ад ПЦ "Вясна". Паабяцаўшы выпісаць заўтра штраф у 20 мільёнаў, яго адпусцілі. Затрымалі таксама фотакарэспандэнта мясцовай незалежнай газеты "Intex-press" В. Клапоцкага, які прысутнічаў па заданні сваёй рэдакцыі. Яго таксама мусілі адпусціць.

*Уладзімір ГОЎША.*

### Новыя кантралёры ў банках

**БЯРОЗА.** Як вядома, падчас нядаўняга наведвання Магілёўшчыны Аляксандр Лукашэнка звярнуў увагу на амаль свабодную дзейнасць "валютчыкаў" каля абменных пунктаў валюты і запатрабаваў навядзення парадку.

У выніку раніцай у аўторак, 25 студзеня, у памяшканнях камерцыйных банкаў Бярозы нечакана для іх супрацоўнікаў з'явіліся па двое міліцыянераў, якія заявілі, што будуць прысутнічаць тут і наглядаць за ходам валютнаабменных аперацый. Асаблівая гэта ўразіла супрацоўнікаў філіяла "Белбізнесбанку", які размешчаны на краю горада, а яго "абменнік" — у цэнтры.

*Сяржук РУСЕЦКІ.*



### НАДВОР'Е Ў ВЫХАДНЫЯ ДНІ

захаваецца воблачнае з праясненнямі, часам ападкі. На дарогах галалёдзіца. Вецер паўночна-заходні, 5-8, парывы да 10-15 м/с. Тэмпература паветра каля 0, уначы — 1-4 градусы марозу.

### Пасмяёмся разам з...

*закройшчыцай швейнага прадпрыемства "Стыль" (г. Івацэвічы) Алай Петрушэвіч:*

— Куды, Абрам, казу вядзеш?
— На базар прадаваць.
— Дык ты ж яе тыдзень таму як купіў?
— Разумееш, Хаім, ёсць у мяне нейкіх пяць тысяч долараў, дык яна, як толькі надыдзе ноч: "КДБе-е-е ды КДБе-е-е"...



ЧАС РЭСПУБЛІКІ

## Дружба — дружбай, а грошы — аддавай

***Прэм'ер-міністр Беларусі Сяргей Лінг правёў у Маскве перамовы са старшынёй праўлення РАТ "Адзіныя энергетычныя сістэмы Расіі" Анатолем Чубайсам. Удзел у перамовах таксама браў прэзідэнт канцэрна "Белэнерга" Уладзімір Герасімаў.***

Паводле інфармацыі з расійскіх крыніцаў, разглядаліся перспектывы супрацоўніцтва энергасістэм Расіі і Беларусі, якія працуюць у паралельным рэжыме ў межах падпісанага 22 лістапада 1999 года ўрадавага пагаднення аб стварэнні аб'яднанай электраэнергетычнай сістэмы. Абмяркоўваліся таксама пытанні расійскіх інвестыцый у развіццё энергасеткавай гаспадаркі Беларусі. Бакі абмеркавалі і магчымасць транзіту расійскай электраэнергіі праз тэрыторыю Беларусі, а таксама перспектывы сумеснага экспарту электраэнергіі ў краіны Цэнтральнай Еўропы, у прыватнасці, у Польшчу.

Асаблівая ўвага была нададзена праблеме пагашэння беларускай запазычанасці. Адзначалася, што ў гэтым плане Беларусь сур'ёзна прасунулася наперад. За год доўг краіны перад РАТ "Адзіныя энергетычныя сістэмы Расіі" скараціўся з 53,6 мільёна да 39,5 мільёна долараў ЗША.

## Пералічана мытнікамі

***У 1999 годзе мытнікамі было пералічана ў бюджэт 117 трыльёнаў недэмінаваных рублёў, ці 25 працэнтаў яго даходнай часткі.***

Паводле папярэдніх звестак, дзяржаўны план па збіранні мытных плацяжоў у рэспубліканскі бюджэт выкананы ў 1999 годзе на 101,5 працэнта. Усяго мытнікамі было пералічана звыш за 117 трыльёнаў недэмінаваных рублёў, што склала 25 працэнтаў даходнай часткі бюджэту. Такую інфармацыю 25 студзеня на прэс-канферэнцыі паведаміў старшыня Дзяржаўнага мытнага камітэта Беларусі Вікенцій Макарэвіч.

Ён адзначыў, што 1999 год быў для мытнай службы Беларусі складаным, аднак, у асноўным, пастаўленыя задачы выкананыя. Удзельная вага паступленняў валюты ў казну ад мытнікаў склала 65 працэнтаў ад агульнай сумы грашовых сродкаў. За год доля паступленняў валюты ад мытнікаў павялічылася больш чым на 10 працэнтаў.

Адным з этапаў працы мытнікаў у 1999 годзе стала стварэнне ўласнай службы бяспекі, адна з асноўных мэт якой — выяўленне фактаў вымагальніцтва і пабораў.

## Сітуацыя з парушэннямі правоў чалавека

***У Жэневе (Швейцарыя), дзе праходзіць пасяджэнне камітэта Міжпарламенцкага саюза (МПС) па правах чалавека ў дачыненні да парламентарыяў, абмяркоўваецца пытанне аб парушэнні правоў чалавека ў дачыненні да дэпутатаў Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання.***

Як вядома, зараз дэпутаты ВС Уладзімір Кудзінаў і Андрэй Клімаў знаходзяцца за кратамі, а іхні калега — першы намеснік старшыні ВС Віктар Ганчар — знік без вестак у верасні 1999 года пры нявысветленых абставінах.

Для ўдзелу ў працы камітэта ў Швейцарыю былі запрошаныя прадстаўнікі ВС і сфарміраванага ў выніку канстытуцыйнага рэферэндуму 1996 года Нацыянальнага сходу Беларусі. Ад Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання на пасяджэнне накіравана прадстаўнік аргкамітэта грамадзянскай ініцыятывы "Хартыя-97", дэпутат Людміла Гразнова. Нацыянальны сход Беларусі прадстаўляе дэпутат Палаты прадстаўнікоў, начальнік следчага камітэта пры МУС краіны — намеснік міністра ўнутраных спраў Беларусі Леанід Глухоўскі.

## Урад ЗША асудзіў

***Урад Злучаных Штатаў Амерыкі асудзіў "нарастаючыя рэпрэсіі і далейшае пагаршэнне перспектыў вырашэння канстытуцыйнага і палітычнага крызісу" ў Беларусі.***

24 студзеня намеснік прэс-сакратара дзяржаўнага дэпартамента ЗША Джэймс Фоўлі выступіў з заявай ад імя ўрада. У ёй выказваецца падтрымка тым, хто выступае за дэмакратычныя рэформы ў Беларусі. Сярод ахвяр палітычных рэпрэсій названы былы прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір, суд над якім пачаўся 19 студзеня. У заяве падкрэсліваецца, што ён быў арыштаваны менавіта тады, калі абвясціў, што будзе кандыдатам на прэзідэнцкіх выбарах, наладжаных апазіцыяй. Таксама выказваецца меркаванне, што прысуд былому міністру сельскай гаспадаркі Васілю Лявонаву, які быў 14 студзеня асуджаны на 4 гады зняволення, засноўваецца на сфабрыкаваных абвінавачваннях. "Як і ў спадара Чыгіра, адзіная віна спадара Лявонава была ў тым, што ён не пагаджаўся з палітыкай рэжыму Лукашэнкі", — адзначаецца ў заяве. У шэрагу парушэнняў таксама названы працэс суда над дэпутатам Вярхоўнага Савета Андрэем Клімавым, які быў жорстка збіты аховай следчага ізалятара 13 снежня 1999 года, нядаўні прысуд на два гады папраўчых работ па месцы працы удзельніку антыўрадавай дэманстрацыі Яўгену Асінскаму і адмова ўладаў расследаваць скаргу праваабаронцы Алега Волчака, які быў збіты міліцыяй падчас дэманстрацыі 21 ліпеня 1999 года.

"Мы заклікаем рэжым Лукашэнкі спыніць пераслед палітычных апанентаў, — гаворыцца ў заяве. — Такі крок з'яўляецца неабходным, каб працэс дыялога пад эгідай АБСЕ меў шанцы на поспех".

**(БелаПАН).**

# ЗА ШТО ГРОШЫ ПЛАЦІМ?

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Гэтае пытанне ўжо колькі гадоў на вуснах жыхароў райцэнтра. Гаворка ідзе пра пітную ваду, а дакладней пра іржавую вадкасць, якой штодня ў прамым сэнсе гэтага слова падрываюць сваё здароўе гараджане. Яны звоняць і ідуць да камунальнікаў, прыходзяць і тэлефануюць да нас. Аднак якасць вады не паляпшаецца.

І камунальнікі, і мясцовыя ўлады абяцаюць вырашыць гэтую праблему з заканчэннем будаўніцтва станцыі абезжалезвання. Ці сапраўды будзе так? Не верыцца ў гэта. І вось чаму.

Вядома, што пасля станцыі абезжалезвання пітная вада павінна быць чыстай, без прымесяў жалеза, прыгоднай для ўжывання. Але ж гэтая вада, перш чым трапіць у кватэру, павінна прайсці па гарадской водаправоднай сістэме, пабудаванай дзесяткі гадоў таму. Большасць яе — гэта жалезныя трубы, тэрміны эксплуатацыі якіх даўно выйшлі. А замяніць усю гэтую сістэму ні сёння, ні заўтра не пад сілу.

Аб тым, што ўся водаправодная сістэма ледзьледзь дыхае, сведчаць частыя аварыі на ёй. На мінулым тыдні, напрыклад, адбылася аварыя на водаправодзе. Тры дні ў часткі жыхароў горада не было ніякай вады. Аварыя ліквідавана. Але праблема якасці вады па-ранейшаму застаецца. Па-ранейшаму гараджане задаюць пытанне: "За што мы плацім грошы?"

*Святаслаў* **КАЖАДУБ.**

## Мультфільмы па-беларуску

Кабельнае тэлебачанне Бярозы і Белаазёрска паказалі ўжо некалькі і працягваюць далейшы паказ лепшых дыснейскіх мультыплікацыйных фільмаў, дубляваных таварыствам "Сотвар" на беларускую мову: "Балто", "Аліса ў краіне цудаў", "Жыццё жукоў", "Меч у камяні", "Прыгажуня ў сонным лесе", што былі прадастаўлены сябрамі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.

*Сяржук* **РУСЕЦКІ.**

## Выбух у жылым доме

**БАРАНАВІЧЫ.** Тры чалавекі пацярпелі ў райцэнтры ў выніку выбуху, які адбыўся 22 студзеня ў адным з прыватных дамоў. Як паведамілі ў прэс-службе УУС Брэсцкага аблвыканкама, трое мужчын, старэйшаму з якіх 42 гады, разбіралі рэгенератыўны патрон да процівагазу ІП-4. Відаць, яны не ведалі, што кісларод у ім выпрацоўваецца ў выніку хімічнай рэакцыі, і што пры разгерметызацыі патрона можа адбыцца выбух. Гаспадар прыватнага дома, у якім рабіўся дэмантаж патрона, атрымаў закрытыя пераломы і рваныя раны. У бальніцы яму былі ампутаваныя тры пальцы на левай і два пальцы на правай руцэ. Ягоныя таварышы таксама атрымалі раненні, але менш цяжкія. Ад выбуху сур'ёзна пацярпеў дом: вылецела шкло і ваконныя рамы, дзвярныя праёмы, разбурана частка сцяны.

*Валянціна* **КАЗЛОВІЧ.**



АЛЁ, РЭДАКЦЫЯ?

## Скарачэнняў рэйсаў не будзе

***— "Газета для вас"? Ці не маглі б вы толкам растлумачыць — ці чакаецца скарачэнне рэйсаў маршрутных аўтобусаў? Ходзяць чуткі, што з-за дарагоўлі бензіну іх рух будзе максімальна скарочаны...***

***(З тэлефоннага званка з в. Чамялы Івацэвіцкага раёна).***

**Каб праясніць сітуацыю, мы патэлефанавалі дырэктару аўтакамбіната № 14 І. М. ХМЯЛЕЎСКАМУ.**

— Так, сапраўды на пачатку студзеня перад намі сталі праблемы, звязаныя з цяжкасцямі ў набыцці бензіну. Таму чуткі былі, як бачыце, небеспадстаўныя.

Але зараз становішча змянілася ў лепшы бок, мы яшчэ актыўней супрацоўнічаем з нафтабазай, сітуацыя з набыццём паліва пад кантролем. Таму ў бліжэйшы час ніякага скарачэння маршрутаў не чакаецца.

КРИМИНАЛ

## Сколько веревочке ни виться...

**БЕРЕЗА.** Только на час-два оставили свои иномарки без присмотра их владельцы — жители ул. Ленина, микрорайонов Тышкевича, Северного — и расстались если не навсегда, то по крайней мере надолго. Угонщики действовали неожиданно, дерзко и успешно.

Однако, сколько веревочке ни виться, а конец будет. На слуцкой развилке работники ГАИ остановили "Ауди-100" для проверки документов. Иномарка не остановилась. Началась погоня. В лесу угонщики бросили машину, а сами скрылись в чащобе.

ГАИшники отогнали машину на штрафную площадку. Начался поиск владельца, который и оказался жителем г. Березы. И примерно в это же время опять угон машины в городе. Ее уже сотрудники Березовского ГАИ преследовали аж до территории Ивацевичского района. Скорость — 200 км /час. Оторвавшись от погони, угонщики опять бросили машину и скрылись в лесу. Но... веревочке пришлось оборваться. Служебно-розыскная собака взяла след преступников, и одного из них удалось задержать.

Потом была обыкновенная розыскная работа. Сыщики вышли на группу молодых парней из Барановичей, в составе которой был еще один минчанин и несовершеннолетний подросток. Механизм их работы простой: садились на электричку, ехали в Березу, ходили по улицам, заглядывали во дворы и угоняли понравившиеся иномарки. Перегоняли их в авторемонтную мастерскую частного предпринимателя г. Барановичи. Там ее разбирали на запчасти.

Всего найдено пять иномарок. Четыре возвращены владельцам, но в каком виде!

Угонщики и частный предприниматель арестованы. Ведется следствие.

*Васіль* **СТРОК.**

РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА

# ШТО ПАЧЫМ?

*Цэны на рынках нашага рэгіёна па стану на 27.01.2000 г. (у руб. за адзін кілаграм):*

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза | Пружаны |
|---|---|---|---|---|
| Свініна | 1000—2000 | 1600—2300 | 1000—1500 | 1100—1500 |
| Сала салёнае | 1000 | 1300—1500 | 1000 | 900 |
| Алей (1 л) | 650—750 | 660—900 | 600—750 | 650—750 |
| Яйкі | 450 | 390—410 | 450 | 430—450 |
| Малако (3 л) | 240 | 240 | 260 | 220 |
| Тварог | 300 | 400 | 320 | 360 |
| Масла сметанк. | 1000 | 1500—1800 | 1200 | 1200 |
| Цыбуля рэпч. | 190 | 190 | 190 | 180 |
| Капуста | 80 | 70—90 | 70—80 | 90 |
| Бульба | — | 70—80 | 100 | 80 |
| Морква | 100 | 100—120 | 90—100 | 120 |
| Буракі стал. | — | 60—100 | 60—70 | 80 |
| Яблыкі | 400—500 | 380—700 | 400—480 | 560 |
| Грушы | 900 | 900 | — | 880—910 |
| Вінаград | — | 2000—2300 | — | — |
| Грэцкія арэхі | 650 | 700—800 | 600 | 700 |
| Часнок (1 шт.) | 40—60 | 50—70 | 60 | 75 |
| Лімоны | 1200 | 1200 | 900—990 | 1200 |
| Апельсіны | 750 | 800—880 | 690—790 | 900 |
| Бананы | 700 | 800—880 | 790 | 900 |
| Мандарыны | 850—900 | 950—1000 | 890 | — |
| Грэчка | 600 | 700 | 650 | 650 |
| Макар. вырабы | 270—350 | 300—350 | 280—300 | 230—250 |
| Рыс | 450 | 500—550 | 380—440 | 450—470 |
| Манныя крупы | 330 | 330 | 380 | 300 |
| Проса | 280 | 280 | 340 | 230 |
| Цукар | 260 | 260—280 | 270 | 280 |
| Мёд | 2.400 | 2.400 | 1—3 тыс. | 2000—2250 |

**ВАЛЮТА НА "ЧОРНЫМ" РЫНКУ (руб.)**

| | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 880 | 920 | 880 | 920 | 880 | 920 | 900 | 950 |
| 1 дойчмарка | 440 | 460 | 440 | 460 | 440 | 460 | 450 | 475 |
| 1 рубель Расіі | 30 | 32 | 30 | 33 | 30 | 35 | 29 | 31 |

● ТАКОВА ЖИЗНЬ

# КТО ПОДРЫВАЕТ АВТОРИТЕТ ВЛАСТИ?

**(Окончание. Начало на 1-й стр.).**

Известно, что вся власть в районе принадлежит райисполкому. Ошибаются те, которые повторяют, что — народу. У него никогда не было и нет никакой власти. Другое дело райисполком. Но во всем ли он, так сказать, "боеспособен"? Всегда ли ему под силу справляться с местными трудностями?

Еще с советских времен стал популярным лозунг "Кадры решают всё". Не потерял он своей актуальности и сегодня. Там, где во главе коллектива находится грамотный специалист и порядочный человек, там и дела идут неплохо, там и не возникают различные недоразумения, а тем более разборки, тяжбы, даже следствия, которые не способствуют нормальной обстановке в коллективе и, в конечном счете, подрывают доверие к власти.

Чтобы не быть голословным, обратимся к конкретным примерам по Ивацевичскому району, а именно к деятельности местных кадров и властных структур.

Уже набило оскомину в прямом смысле этого слова дело председателя колхоза им. Кирова М. В. Радени. Сущность его в том, что непорядочность самого руководителя зашла так далеко, что дальше уже некуда. Только два примера. М. В. Раденя неизвестно за какие средства построил три особняка и другие строения, стоимость которых оценивается примерно в сто миллиардов недеминированных белорусских рублей. Жена этого руководителя семь лет не работала, а числилась на работе в колхозе, но деньги ежемесячно исправно получала. В этом громком деле целый ряд и других правонарушений. Но местная прокуратура во главе с Т. А. Стасевич в этих нарушениях не видит состава преступлений. Правда, областная прокуратура не осмелилась сразу сделать так, как районная, а переслала дело на доследование. Словом, волокита вокруг дела и защита этого председателя, который уже не имеет морального права руководить коллективом, продолжается.

Коль речь зашла об Ивацевичской прокуратуре, то следует напомнить, что и в деле о смерти подростка Николая Русака из д. Чемелы, о котором писала наша газета, тоже было немало неясностей. Погибшего нашли мертвым, сидящим в воде и накрытым сверху травой. Интересно то, что на месте гибели подростка ни из милиции, ни из прокуратуры никто не побывал. Странно и то, что того человека, который нашел Русака, даже не допросили. Только спустя несколько месяцев сделали это по требованию родителей. Дело закрыли и даже обвинили родителей и редакцию в нагнетании страстей. А следователь прокуратуры А. Кирилович даже выступил в местной печати, бездоказательно метая громы и молнии по поводу всех, кто осмелился высказать стражам законности свои сомнения по поводу полноты и объективности следствия. Не зря говорят, что лучшая защита, это нападение. Так было и в этом случае.

Мы понимаем, что в деле, связанном со смертью Николая Русака, были свои "трудности". В той компании, что тогда отдыхала на Чемеловском озере и по всей видимости знала причину смерти подростка, были бывшего прокурора сынок, чада других районных чиновников.

В деле же по факту вандализма на городских кладбищах в г. Ивацевичи трудностей, по-моему, совсем не существовало. Милиция поймала этих грабителей, возбудила уголовное дело, а Ивацевичская прокуратура и здесь не нашла состава преступления. Только после вмешательства нашей газеты районная прокуратура направила дело на доследование. С июля прошлого года оно продолжается. А тем временем ограда городских кладбищ стала совсем неприглядной, ее уже всю обломали и унесли.

На слуху в районе факты хищения собственности председателем колхоза "Доманово" В. П. Мелешкевичем, главным инженером ОАО "Ивацевичский молокозавод" Н. Г. Дедок и другими горе-руководителями. И что же прокуратура? О ее действиях никто ничего не знает.

Интересны в этом плане рассуждения председателя Ивацевичского райисполкома В. В. Летяги в интервью местной газете. "Вот и складывается у меня впечатление, — говорит Владимир Васильевич, — что существует круговая порука, что запутанные в грязных делишках по набиванию своих собственных карманов в период растаскивания государственной собственности, боясь за свою собственную шкуру, покрывают один одного. А это же вред общему делу. Это подрывает авторитет власти у народа".

Сказано откровенно и ясно. Пока подобное будет существовать, будет и недоверие к местной власти, к ее властным структурам.

*Михаил* ДМИТРУК.
*г. Ивацевичи.*

# "Трэба пажыць для сябе..."

Адзін мой знаёмы, прачытаўшы заметку "Навучышся піць — тады назначым", заўважыў, што ў наш час такіх крылатых выказванняў вельмі шмат. І сам жа расказаў другі выпадак, які меў месца ў яго жыцці. Паслухайце яго.

— Я працую ў адным з калгасаў Баранавіцкага раёна заатэхнікам. Калгас наш паражняльна цвёрда стаіць на нагах, спецыялісты ў нас неблагія. Таму не дзіўна, калі ў суседнім калгасе, які ледзь дыхае, дзе ўсё даўно расцягнута, вызвалілася пасада старшыні калгаса, то шукаць яму замену ўзяліся ў нашай гаспадарцы. Пачалі абходжваць нашага галоўнага інжынера, які ў сваю чаргу нядоўга вагаўся. І калі ў кампаніі з ім зноў загаварылі на гэтую тэму, ён цудоўна выказаўся на гэты конт.

"Трэба пажыць для сябе", — сказаў ён, тлумачачы сваю згоду стаць кіраўніком калгаса.

Ці не ў тым прычына поўнага заняпаду калгаснасаўгаснай сістэмы, што большая частка кіраўнікоў толькі і думае пра тое, як пажыць для сябе. Здаецца, ужо і красці няма чаго ў гэтых калгасах, але прыйдзе новы кіраўнік — і пачынаецца новая эпапея. Ці будзе калі-небудзь канец гэтай эстафеце?

*Аляксандр* МІХАЛЕНКА.

● ПАВЕДАМЛЯЕ БелаПАН

## З 1 лютага пачынаецца страйк прадпрымальнікаў

***Агульнарэспубліканская нарада кіраўнікоў прадпрымальніцкіх структур і арганізацый распаўсюдзіла паведамленне для прадпрымальнікаў, у якім абвясціла пра пачатак з 1 лютага агульнарэспубліканскага страйку са спыненнем уплаты падаткаў і іншых плацяжоў у бюджэт.***

Яго аўтары заклікаюць "асцерагацца ўсемагчымых псеўдалідэраў і правакатараў". "Любыя заявы і дзеянні, звязаныя са страйкамі прадпрымальнікаў, не ўзгодненыя са Свабодным прафсаюзам прадпрымальнікаў і страйкамам, будуць намі расцэньвацца як правакацыя з усімі вынікаючымі наступствамі для правакатараў", — падкрэслівaецца ў паведамленні.

Арганізатары страйку таксама пералічваюць свае патрабаванні, сярод якіх:

— адмяніць (спрасціць) абавязковы бухгалтарскі ўлік для асоб, якія ўплацілі фіксаваны стаўкі падаткаў;

— аб'явіць мараторый на павышэнне ставак фіксаванага падатку (яны не павінны перавышаць велічыні, устаноўленай па стану на снежань 1999 года);

— адмяніць падатак на дабаўленую вартасць (ПДВ) для асоб, якія ўплачваюць фіксаваныя стаўкі падатку;

— адмяніць абавязковую сертыфікацыю і гігіенічную рэгістрацыю тавараў, якія рэалізуюцца на рынках з абавязковай адзнакай "Тавар не сертыфікаваны ў Рэспубліцы Беларусь". Прызнаць сертыфікаты іншых краін;

— спыніць вымагальніцтва хабару з боку міліцыі, падатковых кантралёраў і адміністрацый рынкаў, работнікаў выканкамаў;

— спыніць паборы і вымагальніцтва з боку дзяржаўных чыноўнікаў пры транспарціроўцы тавараў з Расіі ў Беларусь.

Арганізатары страйку таксама паведамляюць, што прафсаюз "Садружнасць" выведзены са страйкавага камітэта, паколькі "з'яўляецца дзяржаўным прафсаюзам" (уваходзіць у склад Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай).

## БНФ "Адраджэнне" рыхтуецца да маючых адбыцца акцый пратэсту "Вясна-2000"

Сітуацыя ў краіне і пытанні, звязаныя з арганізацыяй акцый пратэсту "Вясна-2000", абмяркоўваліся на пасяджэнні Сойма БНФ "Адраджэнне" на чале з Вінцуком Вячоркам.

Як паведаміла БелаПАН прэс-група БНФ "Адраджэнне", удзельнікі пасяджэння назвалі трывожным становішча ў краіне: улады не збіраюцца весці сур'ёзныя перамовы з апазіцыяй; працягваюцца спробы інкарпарацыі Беларусі Расіяй; узровень жыцця насельніцтва ў апошнія месяцы чаргова раз упаў.

З гэтай нагоды Сойм БНФ прыняў рашэнне падтрымаць шэраг акцый пратэсту, запланаваных на люты, у прыватнасці — страйк прадпрымальнікаў, святкаванне дэмакратычнай моладдзю краіны Дня Святога Валянціна 14 лютага, а таксама акцыю беларускіх ветэранаў вайны ў Афганістане 15 лютага. Разам з іншымі дэмакратычнымі сіламі дзяржавы БНФ "Адраджэнне" мусіць браць удзел у падрыхтоўцы такіх найбуйнейшых акцый апазіцыі, як **Дзень Канстытуцыі — 15 сакавіка, Дзень Свабоды — 25 сакавіка**, традыцыйнага Чарнобыльскага шляху, а таксама ўгодкаў травеньскага рэферэндуму 1995 года.

Сойм даручыў Управе БНФ узяць актыўны ўдзел у фарміраванні нацыянальнага аргкамітэта па святкаванні Дня Свабоды 25 сакавіка, а таксама прыняў зварот, у якім заклікаў прадстаўнікоў усіх дэмакратычных сіл краіны да "скаардынаванага, салідарнага веснавога вулічнага наступу".

● КОНКУРСЫ

## "САМАЯ ОБАЯТЕЛЬНАЯ И ПРИВЛЕКАТЕЛЬНАЯ"



***ВЕРОНИКА**, мое хобби — литература, причем все жанры, кроме скучных, даже классика. Изредка ещё хожу на дискотеку. Нравится творчество группы "Чай вдвоём", а также фильмы с участием М. Боярского, Ю. Никулина.*

*Какие нравятся парни? На мой взгляд, все парни по-своему интересны.*

**Ад рэдакцыі.** Як сведчаць нашы спецапытанні, конкурсы "Самая обаятельная и привлекательная", "Сябры гармоніі і штангі" выклікалі вялікую цікавасць.

Паважаныя маладыя чытачы "Газеты для вас"! Мы заўсёды сцвярджалі і сцвярджаем, што такіх прыгожых дзяўчат, як у нашым рэгіёне, няма больш нідзе, такіх эстэтычна-атлетычнага складу хлопцаў — таксама.

Захавайце ж цудоўнае імгненне сваёй прыгажосці, маладосці і сілы і прыміце ўдзел у нашых конкурсах, паспрачайцеся за галоўны прыз 4 тура "Самая обаятельная и привлекательная" і 1 тура "Сябры гармоніі і штангі", вынікі якіх, дарэчы, будуць падведзены ў канцы чэрвеня!

Конкурсы, такім чынам, працягваюцца, але нам не хапае менавіта вас. Таму тэлефануйце, хлопцы і дзяўчаты, па нашым рэдакцыйным тэлефоне 2-12-29, пішыце пісьмы, прымайце ўдзел. Мы ўважліва разгледзім кожную вашу прапанову.

І яшчэ. Хто не рызыкуе, той не п'е шампанскае.

## "СЯБРЫ ГАРМОНІІ І ШТАНГІ"



*ІГАР, па гараскопу — Авен. Мой кумір — вядомы спартсмен і акцёр Жан-Клод ван Дамм.*

*Вольны час праводжу ў спартыўнай зале, на дыскатэцы, люблю адпачываць на прыродзе.*

*Падабаюцца стройныя, з добрым пачуццём гумару дзяўчаты.*



ТОЧКА ЗРЕНИЯ

# "...А ПРОКУ В НИХ, КАК В ЭТОМ КАМНЕ..."



Со второй половины 1999 года в РБ был дан своеобразный старт серии юбилеев, связанных с 60-летием воссоединения Западной и Восточной Беларуси в составе СССР. Отмечались и отмечаются 60-летие Брестской и Гродненской областей, областных и районных газет; в начале 2000 года, к примеру, началось празднование 60-летия ряда районов Западной Беларуси. Сегодня хотелось бы рассмотреть, то, какой образ приобрели за свои 60 лет пишущие юбиляры — районные газеты.

А даты ведь действительно внушительные. С соответствующим размахом они и праздновались. О чем же говорили юбиляры, что говорилось в адрес самих юбиляров?

Это, как правило, стандартное перечисление имён той пишущей братии, которая за 60 лет создавала имя, или, если говорить с явной натяжкой, имидж газеты. Ибо не стоит быть слишком утонченным ценителем печатного слова, чтобы убедиться — эти газеты свой век прожили скромно, тихо и вяло, черты их физиономий — обтекаемые и неконкретные.

Не было в них ни громогласных разоблачений или хотя бы полемики в смутные сталинские, странные хрущевские, сомнительные брежневские времена. Мимо их глаз и ушей пронеслись запредельные события в Венгрии, Чехословакии, расстрел в Новочеркасске; бессмысленная война в Афганистане тоже обошлась без их полемики. Даже о последствиях Чернобыльского взрыва эти газетки, чьи подписчики жили, кстати сказать, в загрязненных радиацией районах, цедили известия словно сквозь зубы. Приводные ремни, нечего сказать. Как китайские болванчики (есть такая игрушка) они размеренно кивали и кивали своими головами все шестьдесят лет. Как писал когда-то великий классик: "... не бросив веку мысли плодовитой, ни гением начатого труда".

А могло ли бы быть иначе? Нет. Конечно, нет. И чтобы понять это, не надо быть каким-то особенным мудрецом. Газетки такого пошиба были-то органами коммунистических райкомов, своего рода пишущей партбратией.

Развал же коммунистического детища — СССР — временно подкосил эти издания, но потом вроде как всё стало на свои места: выяснилось, что совковость братца-белоруса — не заморская хворь, залетевшая к нам из дальних стран в виде манифестов, штурмов, экспроприаций, а чечотка местного масштаба...

Нельзя не заметить, что "районки" тех и нынешних времен по непонятным до сих пор причинам сильнейшим образом тяготели к сельскому хозяйству, словно колхозные боевые листки. Для тех районов, львиная доля населения которых была аграрной, сельской, эти газетки пришлись более чем ко двору: так, например, и сегодня в сельских районах официальные райгазеты имеют довольно неплохой тираж. Но чем больше райцентр, тем тираж ниже. Так, Ляховичская или Ивацевичская райгазеты, большая часть подписчиков которых живёт по деревням и весям, имеют значительно выше тираж на душу населения и даже мало уступают по тиражу Барановичской или Брестской райгазетам, хотя в зонах распространения последних жителей в несколько раз больше, чем в том же Ляховичском или Ивацевичском районах. Но это совсем не потому, что в Ивацевичах или Ляховичах работают какие-то особенные таланты (кстати, местечковые михайловы и григорьевы именно таковыми себя и считают), которым брестские журналисты не годятся в подмётки.

Сельский, аграрный район не может не выписывать такой же сельской, лапотно-сермяжной газетки.

Но грустнее всего, повторюсь, то, что не было в их работе свежих, оригинальных идей, мыслей, оригинальных взглядов. Потому их вроде как уважительный возраст не стал помехой тем изданиям, что родились в начале 90-х и в появлении которых райгазеты неслучайно увидели ненавистного конкурента. Сегодня областная газета "Заря" уступает по популярности "Вечернему Бресту", на пятки им наступает "Брестский курьер". В средних городах Западной Беларуси — Слониме, Барановичах, Сморгони — новые издания или потеснили, или просто заткнули райгазеты за пояс, не взирая на их солидный, но, как видите, бесплодный возраст.

Что же могут предложить взамен официальные районки? Кроме брюзжания, озлобления, совсем ничего. Почитайте эти "веснікі-маякі". Сколько ненависти у них ко всему новому, свежему, оригинальному. Они-то думали, что их солидный возраст — карт-бланш, а он оказался фиговым листком.

ХХХ

Точно также Камень в басне дедушки Крылова, бесплодно пролежавший на поле 40 лет, с ненавистью и злобой обнаружил, что Дождь, который его значительно моложе (идёт только два часа), значительно более обрадовал природу, чем радует он сам.

На что Червяк ему отвечал, что этот Дождь "...лишенную засухой сил обильно ниву напоил" и "...что земледельца он надежду оживил, а ты на ниве сей пустое только бремя". И безжалостна мораль:

Так хвалится иной,
Что служит сорок лет:
А проку в нем,
Как в этом Камне, нет.

*Александр ГОРБАЧ.*

ГОЛАС НАРОДА



# Вайна ў Чачні: якое выйсце?

***Вайна на Паўночным Каўказе ўжо даўно стала галоўнай тэмай большасці інфармацыйных праграм на радыё, тэлебачанні, у прэсе. Нельга не звярнуць увагу на тое, што вайна, хутчэй за ўсё, прыме зацяжны характар, хутка не скончыцца. Чачэнскія фарміраванні някепска сябе адчуваюць падчас партызанскай барацьбы. Але якімі бачацца падзеі ў Чачні сярэднестатыстычнаму беларусу? Вось якія адказы мы пачулі ад выпадкова сустрэтых намі прахожых на вул. Камсамольскай у г. Івацэвічы.***



**Мікалай:** Трэба расіянам ваяваць там да поўнай перамогі. Бо калі толькі спыніцца наступленне расійскай арміі, то адразу баявікі пераведуць дух і пачнецца той бардак, што і быў там да гэтай пары. З тэрарыстамі — ніякіх кампрамісаў!

**Сяргей:** Трэба ачысціць тэрыторыю Чачні ад баявікоў, размясціць там вялікі воінскі кантынгент, які б кантраляваў сітуацыю, — тады справы пайшлі б у лепшы бок. З цягам часу яны, чачэнцы, здадуць зброю, пачнецца мірнае жыццё. У іншым выпадку там канца вайны не дачакаешся. А з народам ваяваць няма сэнсу, бо народ Чачні ніколі не скорыцца.



**Васіль Дзянісавіч:** Трэба ваяваць да канца. Прабачце, але ж гэта вайна з бандытамі. Не трэба думаць, што незалежнасць іх супакоіць. Калі ім даць незалежнасць, то яны прападуць жа, назад прасіцца пачнуць. Трэба ваяваць, паўтаруся, да канца, інакш толку не будзе.

**Андрэй:** На мой погляд, трэба даваць Чачні незалежнасць. Расія з цягам часу зразумее, што іншага выйсця няма, бо вайны там — яшчэ на стагоддзе. Уявіце, што я — чалавек цывільны, які не жадае ваяваць, а вас, майго сябра, забілі. Нават калі я не жадаю вайны, то буду помсціць. Вось так зараз помсцяць у Чачні. Да таго ж, усё мужчынскае насельніцтва ад — 10 да 60 год! — падвяргаецца праверцы. А гэта азначае — ваюе ўвесь народ Чачні. А народ, хоць маленькі, перамагчы нельга!

*У народ хадзілі Аляксандр ГОРБАЧ, Аляксей ГАНЧУК (фота).*

ЗА І СУПРАЦЬ

***Палітычнае жыццё — гэта не толькі падпісаныя дамовы, візіты, сустрэчы. Гэта яшчэ і тая штодзённая плынь, якая служыць крыніцай існавання розных служб навін, але ў той жа час не можа не прыцягваць увагу тых, хто навіны слухае або глядзіць, як кажуць, краем вуха або вока. Сёння мы прапануем нашым апанентам наступныя пытанні:***

***1. Прайшло 120 гадоў з дня нараджэння І. Сталіна. Як вы ацэньваеце гістарычную ролю гэтай асобы цераз 47 год пасля яго смерці?***

***2. Ваенная кампанія ў Чачні зацягнулася. Калі яна, на ваш погляд, скончыцца? Ці даб'ецца Чачня суверэнітэту?***

# Трэба быць удзячнымі жалезнай руцэ Сталіна

1. Гістарычная асоба І. Сталіна, канешне, неадназначная, але я хацеў бы, каб людзі, гаворачы пра час кіравання СССР Іосіфам Вісарыёнавічам, разумелі тыя ўмовы, у якіх яму давялося быць першым чалавекам краіны.

Пасля першай сусветнай і грамадзянскай войнаў маладая краіна была моцна абяскроўлена, аслаблена. Між тым, за тыя 30 гадоў, калі кіраваў І. Сталін, якія яшчэ перарвала страшэнная вайна, краіна ўстала на ногі, умацавалася.

Тое, што гавораць сёння пра рэпрэсіі, таксама немагчыма не аспрэчваць. Бо калі б не жалезная рука Сталіна, хто можа даць гарантыю, што контррэвалюцыянеры зноў не паднялі б галаву дзе-небудзь у трыццатых гадах, што зноў не ўспыхнула б грамадзянская вайна. Можа і былі перагібы, але пакажыце мне хоць аднаго палітыка, пра якога можна сказаць адназначна добра? Ды і лес сякуць —трэскі ляцяць. Што зробіш — і тысячы невінаватых загінулі, такі ўжо іх лёс... Пад расстрэл траплялі з-за свайго глупства.

2. Вайна ў Чачні працягнецца вельмі доўга, бо канца дэмакратычнаму бязмежжу не відаць.

Сёння некаторыя людзі, якія, відаць, лічаць сябе моцна разумнымі, сцвярджаюць, што, маўляў, вайна паміж Расіяй і Чачнёй была заўсёды, ідзе цэлыя стагоддзі. Гэта глупства. Войны ўсюды былі і ўсюды заканчваліся.

Яшчэ пятнаццаць год таму любы з нас мог прыехаць у Грозны, Гудэрмес, Маздок — і ніхто нікога не браў у заложнікі, не было страляніны, усё было ціха, мірна. А зараз?

Ці вартыя тыя "каштоўнасці", якія прынёс гэты страшны тандэм Гарбачоў—Ельцын, тых ахвяр, якія прынеслі іх авантуры?

Вайна ў Чачні скончыцца тады, калі народы Расіі і Чачні, падкрэслю, народы, простыя людзі, а не ваенныя, баявікі альбо наменклатура, працягнуць адзін аднаму рукі, а гэтых псеўдагерояў з чачэнскага і расійскага бакоў пасадзяць у турмы.

Калі на выбарах прэзідэнта Расіі перамогу атрымае Г. Зюганаў, тады, на мой погляд, палітыка на Каўказе зноў набудзе здаровы сэнс.

*Аляксей МАЛІНЧЫК, пенсіянер, г. Баранавічы.*

# Усе імперыі развальваюцца

1. Гістарычная роля чалавека, які ўзначаліў такую вялізную краіну, не можа не быць значнай. Але, лічу, што тагачасныя падзеі не былі тымі падзеямі, якімі можна ганарыцца. Хоць, магчыма, калі разважаць дыялектычна, у пэўны час грамадству патрэбны такія асобы. Як бываюць арганізмы-мутанты, так і бываюць, відавочна, краіны-мутанты. А вышэйзгаданы "вождь всех народов" — прадукт мутацыі. Ні больш, ні менш.

Таму я зусім не згодзен з тымі горапалітолагамі, якія жадаюць гэтую ў чымсьці пасрэдную, крыважэрную асобу ператварыць у нейкую знакавую фігуру. Маўляў, Сталін аснасціў СССР перадавой зброяй, пры ім пачаліся касмічныя распрацоўкі, ён узяў краіну з сахой і касой, а пакінуў тэхнічна ўзброенай. Глупства гэта ўсё і хлусня. Краіна засталася такой жа галоднай, адсталай, як і была да "вождя". А саха і каса дагэтуль галоўныя прылады селяніна. А тое, што калісьці былі вельмі арыгінальныя касмічныя ці ядзерныя распрацоўкі, то, лічу, простаму чалавеку ад гэтага лягчэй не было. Бо як ні цікавы вам касмічныя справы, а жыццё на роднай зямельцы цікавей і важней.

2. Вайна ў Чачні не скончыцца ніколі. Яна будзе цягнуцца да той пары, пакуль Расія не пачне праводзіць зусім іншую палітыку ў адносінах да тых народаў, якія яна калісьці захапіла. Бо ўсе імперыі калісьці развальваліся. Тое самае чакае і гэтую імперыю.

А Чачня —гэта першая ў гэтым сэнсе ластаўка. Любы гісторык альбо проста дасведчаны чалавек вам успомніць падзеі мінулага стагоддзя, калі барацьбу з царскімі войскамі вялі Шаміль і іншыя каўказцы. І тады захоплівалі заложнікаў, імкнуліся выгнаць расіянаў са сваёй зямлі. І што змянілася з той пары, скажыце мне?

*Мікалай ТАТАРЧУК, настаўнік гісторыі Целяханскай СШ Івацэвіцкага раёна.*

